*Свабода, роўнасць братэрства!*

# Беларускі Усход

*Жыве Беларусь!*
НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

● ЗАСНАВАНА Ў 1991 ГОДЗЕ ● №1(56) Субота, 21 лютага 1998 г. ● Кошт 2000 руб.

## Навіны, падзеі, факты

**Мінскі гарвыканкам задаволіў заяўку прадстаўнікоў Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) на правядзенне трох пікетаў, мэта якіх — збор подпісаў у падтрымку грамадзянскай ініцыятывы "Хартыя-97" і выказванне пратэсту з нагоды парушэння ў рэспубліцы правоў чалавека.**

Пры гэтым грамадскія ўлады змянілі месца правядзення акцыі: замест заяўленых арганізатарамі некалькіх кропак горада — каля станцый метро "Пушкінская" і "Трактарны завод", а таксама ля рэспубліканскага Дома мод на вуліцы Няміга — ім прапанаваны намнога менш шматлюдны сквер, размешчаны на скрыжаванні вуліц Няміга і Гарадскі Вал.

**У Мінску прайшла акцыя, якую правяла маладзёжная апазіцыйная арганізацыя "Малады фронт" у гонар Дня святога Валянціна і зімняй Алімпіады, якая праходзіць у гэтыя дні ў японскім горадзе Нагана.**

Акцыя пачалася з таго, што некалькі груп "Маладафронтаўцаў" наведалі амбасады краін Балтыі, Вялікабрытаніі, Германіі, Италіі, Польшчы, ЗША, Украіны, Францыі, Японіі, а таксама прадстаўніцтва ААН у Беларусі і ўручылі іх прадстаўнікам петыцыі. У іх члены Маладога фронту павіншавалі супрацоўнікаў амбасад і народы краін, якія яны прадстаўляюць, з днём святога Валянціна і Алімпійскімі гульнямі. Аўтары петыцыі заявілі, што маладыя беларусы бачаць сваю краіну ў вольнай і адзінай Еўропе "пад абаронай НАТО, а не ў абдымках чырвона-карычневага расійскага рэваншу", выступаюць "супраць палітыкі канфрантацыі з Еўропай, якую праводзіць рэжым Лукашэнкі, супраць дыскрымінацый нацыянальнай культуры, ціску на свабоду слова, супраць рэпрэсій. Шэсце пачалося ў 16.45 з плошчы Якуба Коласа. Яго ўдзельнікі праследавалі па вуліцы Чырвонай. У калоне налічвалася да тысячы дэманстрантаў, якія прайшлі па прадпісаным маршруце і без якіх-небудзь інцыдэнтаў.

Каля тэатра оперы і балету адбыўся невялікі мітынг.

**У Бабруйску пачала выходзіць новая незалежная грамадска-палітычная газета, якую рэдагуе Вячаслаў Свізуноў. Заснавалі выданне бабруйская гарадская арганізацыя БНФ "Адраджэнне" і бабруйская рэгіянальная арганізацыя Свабоднага прафсаюза Беларускага.**

Газета праўдзіва інфармуе насельніцтва Бабруйскага, Глускага, Клічаўскага, Кіраўскага і Асіповіцкага раёнаў аб падзеях не толькі у азначаным рэгіёне, але і ва ўсёй Беларусі. Выданне ілюструецца фотаздымкамі і малюнкамі. Тут змяшчаюцца красворды, ёсць гумарыстычны куток "Усміхнемся".

Газета, безумоўна, акажа станоўчы уплыў на фарміраванне свядомасці чытачоў.

**Беларускі рэспубліканскі Фонд імя Сапегі пры падтрымцы Фонда Еўразія правёў заняткі ў "Зімовай палітычнай школе для журналістаў" у межах праекта *"Новае палітычнае мысленне на Беларусі"*.**

Заняткі праводзілі высокакваліфікаваныя спецыялісты дацэнт кафедры паліталогіі Рэспубліканскага Інстытута вышэйшай школы БДУ Ірына Бугрова, ст. выкладчык кафедры паліталогіі БДУ Аляксандр Коцікаў, дацэнт кафедры паліталогіі РІВШ пры БДУ Святлана Навумава, дактарант кафедры паліталогіі БДУ ўладзімір Роўда і ст.выкладчык, загадчык секцыі паліталогіі Беларускага аграрнага тэхнічнага універсітэта Віктар Чарноў.

Заняткі праходзілі на базе санаторыя-прафілакторыя "Світанак" пад Мінскам (раён Аксакаўшчыны).

Слухачы школы (21 прадстаўнік дзяржаўных і незалежных газет) не толькі павысілі свае веды ў паліталогіі, але і добра адпачылі, умацавалі сваё здароўе. Яны шчыра дзякуюць арганізатарам і выкладчыкам школы, ветліваму абслугоўваючаму персаналу санаторыя на чале з галоўным урачом В.С.Казаковым, раяць усім жадаючым набыць пуцёўкі і папраўць здароўе ў санаторыі-прафілакторыі "Світанак".

"Беларускі Усход".
Грамадска-палітычная, літаратурна-мастацкая і ~~гаспадарча-камерцыйна~~я газета.
На беларускай мове.
Адрас рэдакцыі: 213670, в.Маркаўка, Хоцімскага р-на, Магілёўскай вобл.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 22-9-89, намесніка галоўнага рэдактара — 22-00-9 /у Хоцімску/, выпускаючага рэдактара — 232-07-25 /у Мінску/.
Рэгістрацыйны N 141.
Падпісны індэкс — 64098.
Пункт гледжання аўтараў друкуемых матэрыялаў можа не супасць з пазыцыяй рэдакцыі.
Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за іх змест, дакладнасць і даставернасць лічбаў, фактаў, імён і іншай інфармацыі.
Рукапісы, здымкі, малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца аўтарам.
Газета надрукавана ў друкарні ЧП "Мэджык". Мінск, вул. В. Харужай 13-61.
Тираж 1000 экз.
Заказ 208.
Галоўны рэдактар Васіль ДАЎГАЛЁЎ.







# Яны пісалі:

*"Беларусь наш дом, наш храм"*
*"Беларусь наша Бацькаўшчына — маці"*
*"Мы любім Беларусь"*
*"Жыве Беларусь"*

## За гэта іх пасадзілі у турму

# Яны сядзець за тое, што любяць Беларусь

Калі Вы можаце чым-небудзь дапамагчы хлопцам ды іх сем'ям альбо хочаце хаця б паставіць свой подпіс за іх вызваленне, зьвяртайцеся на адрэсу: Менск, вул.Варвашэні, 8.

## *Ім неабходная Вашая падтрымка.*

18 лютага ў Мінскім абласным судзе распачаўся судовы працэс па справе маладафронтаўцаў Вадзіма Лабковіча і Аляксея Шыдлоўскага. 16-гадовы В.Лабковіч і 19-гадовы А.Шыдлоўскі абвінавачваюцца ў знявазе дзяржаўнай сімволікі, хуліганстве і пашкоджанні помнікаў гісторыі і культуры (адпаведна артыкулы 186-2, 201 і 225 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь).

Прыкладна ў 9 гадзін 50 хвілін раніцы перад пачаткам працэсу міліцыяй быў затрыманы 22-гадовы жыхар Віцебска Юрась Мароз, які перад будынкам суда стаяў з плакатам наступнага зместу: "Беларусафобны злачынны рэжым сёння судзіць беларусаў за любоў да сваёй Радзімы. Свабоду Аляксею Шыдлоўскаму, Вадзіму Лабковічу і Вадзіму Кабанчуку!". Суддзя Ленінскага райсуда сталіцы А.Церашкова прысудзіла Ю.Марозу пакаранне ў выглядзе 15-сутачнага арышта. Такі прысуд у дачыненні да арыштаванага, інваліда 3-й групы, на думку Церашковай, вынікае з таго, што ў бягучым годзе Юрась Мароз ужо прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці ў Віцебску. Дарэчы, цікавы факт: сённяшняя суддзя Церашкова пасля сканчэння юрфаку БДУ ажно да траўня мінулага году размяркоўвала жылую *плошчу не для вязьняў* - у адпаведнай камісіі райвыканкама. Відаць, вопыт спатрэбіўся.

Суд над Лабковічам і Шыдлоўскім пачаўся амаль на дзве гадзіны пазней. Прычынай стала вялікая колькасць людзей, у тым ліку прадстаўнікоў СМІ, што пажадалі прысутнічаць на працэсе. Між тым зала была выдзелена невялікага памеру. Як патлумачылі мне суддзі абласнога суда, маецца і вялікая зала, але яна — без клеткі вакол лавы падсудных, што супярэчыць інструкцыям канвоя СІЗО. Частка прысутных чакала вынікаў судовых пасяджанняў спачатку ў калідорах суда, а *пасля на вуліцы, паколькі*, спужаўшыся скандзіраванняў "Жыве Беларусь!", людзей пасля перапынку ў будынак не пусцілі зусім. Пракурор Дзмітрый Цімафееў нават прыгразіў моладзі, якая прыйшла падтрымаць Аляксея і Вадзіма, што "здасць у міліцыю і складзе пратаколы".

**Таццяна СНІТКО.**

**Эканоміка**

# "Перспектывы" развіцця

*/З даклада намесніка старшыні Хоцімскага райвыканкама С.Фешчанкі на сесіі раённага Савета дэпутатаў/*

Наш раён сельскагаспадарчы, таму дазвольце адразу астанавіцца на стане спраў у аграрным сектары...

...Зніжаецца прыродная ўрадлівасць глебы, зношваецца сельскагаспадарчая тэхніка, якая яшчэ ёсць...

...У 1977 годзе знізілася вытворчасць мяса на 147 тон, або на 6,7%.

...Зменшылася вытворчасць бульбы на 47%, лёну — на 73%.

...За 1977 год пагалоўе буйнай рагатай жывёлы паменшылася на 634, свіней — на 874 галавы.

Павялічыўся паморак буйной рагатай жывёлы і свіней. За год іх здохла 818 галоў. Страты ад гэтага склалі 593 мільёны рублёў.

...Сярэдні надой малака ад адной каровы склаў 2062 кг.

...У гаспадарках раёна не хапае насення ільну, а ў саўгае "Трасціно" яго і наогул няма...

...Машынна-трактарны парк у апошнія гады не абнаўляўся. З 84 энерганасычаных трактароў няма ніводнага з тэрмінам эксплуатацыі меньш за 5 год, а зернеўборачных камбайнаў, адпрацаваўшых больш 9 гадоў, ад агульнага ліку 88%.

...Вырасла колькасць жывёлы і птушкі ў асабістых падсобных гаспадарках грамадзян. Закуп малака ў насельніцтва павялічыўся на 353 тоны...

...Заробкі, пенсіі і іншыя свае даходы насельніцтва практычна расходвае на харчаванне...

...Працягваецца далейшае зніжэнне аб'ёмаў пасажыраперавозкаў... да ўзроўню 1966 года ён склаў 76,7%.

...Па стану на 1 студзеня 1988 года ў раённым цэнтры занятасці састаіць на ўліку 239 чалавек, з якіх дапамогу атрымліваюць толькі 131 чалавек. Сярод беспрацоўных 142 жанчыны і моладзі ва ўзросце да 30 год — 95 чалавек. З усяго ліку беспрацоўных 39 чалавек — вясковыя жыхары.

...У 1997 годзе ў раёне памерла на 119 чалавек больш, чым нарадзілася.

...Мяркуецца, што 1998 год будзе годам стабілізацыі аб'ёмаў вытворчасці... і прыпынена зніжэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва.

АД РЭДАКЦЫІ: **дай та, Божа наш праведны!**

# Ці надоўга хопіць цярпення?

Кажуць з верхатуры, што нам яшчэ не трэба скардзіцца на жыццё. Беларусы някепска жывуць. У іншых рэспубліках былога СССР жывуць значна горш. Беларусы ў параўнанні з імі — нібы ў Бога за пазухай. На нашай зямлі і кроў не льецца, і пенсіі рэгулярна выплачваюцца. Спакойна жывём.

А на самай справе — як мы жывём? Возьмем пенсіянераў. Гэта самае гаротнае пакаленне. Яно праліло мора крыві, загінуў кожны чацвёрты ў другой сусветнай вайне. Яно патраціла акіян сіл, здароўя на стварэнне нацыянальнага багацця, якое расцягнулі "новыя беларусы" (у асноўным былыя бальшавікі). Гэта ж пакаленнем сённяшніх пенсіянераў створаны тыя багацці, што зараз ёсць у краіне. А як урад дзякуе за ўсё пенсіянерам? Дае максімальную пенсію аж 1900 тысячаў рублёў, у той час калі пенсіянеру трэба на пражыццё мінімум два з паловай мільёны. А возьмем актыўную сям'ю з чатырох чалавек (працаздольныя бацькі і двое дзяцей). На пражыццё ім неабходна больш 10 мільёнаў рублёў, а сярэднемесячны заробак (калі і бацька, і маці працуюць) складае ўсяго (за снежань 1997 года) 6 923 944 рублі. Дзе ж узяць астатныя больш як 3000 000?

З гэтай нагоды ўспамінаецца стары анекдот застойных часоў.

Сустрэліся савецкі і амерыканскі дырэктары заводаў. Амерыканец пытаецца ў савецкага:

— Колькі у цябе зарабляе сярэдні рабочы ў месяц?

— 200 рублёў, — адказвае той.

— А колькі трэба на пражыццё?

— Ну, недзе рублёў 300 — 350...

— А дзе ж ён бярэ астатнія?

— А гэта ўжо яго асабістая справа, — адказвае савецкі.

Цяпер пытае савецкі ў амерыканца:

— А твой сярэдні рабочы колькі зарабляе?

— 200 даляраў, — адказвае амерыканец.

— А на пражытак колькі трэба?

— Ну, недзе 130 — 150 даляраў...

— А куды ж ён дзявае астатнія? — пытаецца савецкі.

— А гэта ўжо яго асабістая справа, — з ухмылкай адказвае амерыканец.

Як бачым, мы нават пры Брэжневе жылі непамерна горш за амерыканцаў. Сёння ж заможна жывуць толькі крутыя — асобныя камерсанты ды вертыкальшчыкі. Працоўныя ж і пенсіянеры — толькі існуюць.

Ці надоўга ў народа хопіць цярпення?

**Кузьма ПЫТКІН.**
*г.Віцебск.*

# У даўгах, як у шаўках

Яшчэ Кебіч, а пасля яго пераемнікі нахапалі за мяжой даўгоў столькі, што на кожнага жыхара Беларусі (ад немаўляці, што толькі гэтай ноччу нарадзілася, да таго нямоглага старога, што не сёння-заўтра памрэ) прыходзіцца доўгу ўжо больш 100 даляраў. Беларускімі грашамі гэта амаль пяць мільёнаў. Для народу на гэтыя грошы нічога добрага не зроблена, а разлічвацца ж з даўгамі прыдзецца менавіта народу! З гэтымі даўгамі, напэўна, і ўнукам нашым не разлічыцца...



*Лясны ручай.*
**Фота Валерыя БЫСАВА.**

# Мільянеры-жабракі

Прэззідэнт, урад, дзяржаўныя газеты, радыё і тэлебачанне на ўсе лады размузыкваюць, што ў краіне намецілася стабілізацыя ў эканоміцы, нават пачаўся прырост вытворчасці, што павялічыліся даходы людзей, паляпшаецца дабрабыт народа.

Што заробкі і пенсіі ўзраслі, і значна, тут усё так. Што ўсе пенсіянеры сталі мільянерамі — таксама верна. Як гэта саладка гучыць, а? Толькі ці грошы ж мы атрымліваем? Калі б мой бацька быў жывы, ён сказаў бы, што гэта — КЕРАНКІ! Што мы ў стане купіць за месячную палучку?

Пры Брэжневе мне плацілі пенсію 132 рублі. Я мог за яе купіць тры мяхі цукру (па 40 руб. за мех) і 2 пляшкі гарэлкі пшанічнай (па 6 руб.). Зараз мне (ў лютым) прынеслі 1 мільён 609 тысяч рублёў. Дык гэта толькі мех цукру і 2 пляшкі сухога віна. Значыць, я стаў у тры разы бяднейшым, чым 10 год таму. А ёсць жа людзі, у якіх палучка меншая за маю.

Мы амаль усе грошы праядаем. Са сваёй кабетай (а ў яе пенсія крыху больш мільёна рублёў у лютым) з 1991 года нічагусенькі з адзення не куплялі. Даношваем усё старое, брэжнеўскае. Лукашэнкаўскіх нават шкарпэтак яшчэ не купілі. А я чуў ад вучоных людзей, што калі хто расходуе на харчы 80% свайго даходу, ён адносіцца да тых людзей, што стаяць ніжэй рысы беднасці.

Фактычна сёння ўсе пенсіянеры, калі апроч пенсіі у іх няма ніякіх даходаў — жабракі, хоць і мільянеры.

**Анатоль ПРАКОПАЎ.**
*г.Лепель.*

## Ці ведаеце вы што...

√ Працягласць жыцця мужчын у Беларусі складае ў наш час 64 гады, а жанчын — 74. Гэта на 15 — 18 гадоў менш, чым у развітых краінах замежжа.

√ Яблыкі і буракі добра выводзяць з арганізма радыёнукліды, таму ўжываць іх трэба столькі, колькі ў вас ёсць магчымасці.

√ Японія плануе праз 50 год пабудаваць на Месяцы касмічную станцыю, на якой пастаянна будуць працаваць 15 даследчыкаў. Ужо ў 2003 годзе па Месяцу будзе вандраваць японскі робат, які зоймецца пошукамі падыходзячай пляцоўкі для будаўніцтва станцыі і заадно будзе праводзіць геолагапошукавыя работы. Вучоныя лічаць, што на Месяцы ёсць вельмі багатыя запасы каштоўнага ізатопу гелію, які дае велізарную колькасць экалагічна чыстай энергіі.

√ Біблія займае ўнікалтнае месца сярод літаратуры свету. Біблія — адзіная ў свеце кніга, якая распавядае аб дзеянні Бога ў гісторыі. Адзіная кніга, у якой запісана ўсё, што Бог хацеў паведаміць людзям аб сабе і што людзям належыць ведаць пра Бога. Біблія не толькі паказвае шлях да Бога, але адкрывае той шлях, або яшчэ больш: яна сама шлях.

√ Па прадказаннях П.Глобы надоўга ўмацуецца ў ролі нацыянальнага лідэра Аляксандр Лукашэнка. Ён будзе выбраны Прэзідэнтам Беларусі на другі тэрмін, стане, магчыма, лаўрэатам Нобелеўскай прэміі. Беларусі ўдасца пазбегнуць значных грамадскіх узрушэнняў. Усё ж сёлета цалкам без крызісу не абыдзецца.

√ 14 снежня 1992 года амерыканскі ваенны карабель выратаваў 13 чалавек з... "Тытаніка", што затануў 84 гады назад з сотнямі пасажыраў на борце.

Пасажыры з "Тытаніка" ў час выратавання мелі ўзрост ад 21 да 62 гадоў, дакументы іх датаваліся да 1912 года. Ва ўсіх выратаваных быў правал у памяці. Усе яны выглядалі на свае гады ў дзень гібелі "Тытаніка".

Усе выратаваныя былі перавезены на сакрэтную ваенную базу, дзе спецгрупа вучоных з Пентагона вывучае гэту дзіўную з'яву

Пакуль усё пра далейшы лёс выратаваных трымаецца пад вялікім сакрэтам.

√ Тыя, хто гадзінамі праседжвае перад тэлевізарам, зніжаюць свае сексуальныя магчымасці. Тэлевізар — забойца кахання! Таму што калі мужчына глядзіць эратычныя сюжэты на экране, ён "кроплепадобна" траціць тыя самыя гармоны, якія патрэбны яму для здзяйснення палавога акта. У канцы доўгага тэлевізійнага вечара мужчына не мае ўжо ніякага жадання кахаць.

√ Па меркаванню вучоных-медыкаў скарачэнне працягласці сну ўсяго на адну гадзіну прыводзіць да змяншэння на 30 працэнтаў у крыві клетак, якія актыўна змагаюцца з вірусная інфекцыяй.

# Каму лепш жывецца?

**Сацыёлагі сцвярджаюць, што еўрапейская жанчына траціць кожны месяц 131 гадзіну на выкананне хатняй работы, беларуская — 150. Мая ж жонка ў 1997 годзе траціла 190 гадзін.**

Мужчына ў Еўропе хатняй рабоце адводзіць усяго 14 хвілін у дзень, а ў Беларусі гараджанін у сярэднім 30 хвілін, вясковец — паўтары гадзіны. Аж не верыцца. Я та адпрацаваў за год 2297 гадзін! Раздзяліўшы на 365, выходзіць 6 гадзін 18 хвілін.

Нездарма я не давяраю афіцыйнай статыстыцы і з 1956 г. вяду дакладнейшы ўлік матэрыяльных, грашовых і працоўных расходаў і затрат. Займаюся сацыялагічнымі даследаваннямі. З 1970 па 1992 год мне дасылалі 240 гаспадароў асабістых падсобных гаспадарак гадавыя справаздачы па сямейным бюджэце і гаспадарчай дзейнасці АПГ. З усіх абласцей Беларусі. Па распрацаванай мною форме справаздач і методыцы аналізу гаспадарчай дзейнасці. Зараз некаторыя з маіх падсправаздачных памерлі, камусьці ўжо цяжка спраўляцца з гэтай справай, а іншым і матэрыяльна цяжка. Бо і папера дарагая, і перасылка карэспандэнцыі стала занадта дарагой.

Я ж асабіста працягваю свае даследаванні.

З гадавой справаздачы за 1997 год бачна, што мы з жонкай адпрацавалі ў АГП 4575,5 чалавека-гадзіны. Прычым мая прыгожая палавіна працавала штодзённа ў сярэднім 6 гадзін і 12 хвілін. Параўнайце з еўрапейскай і беларускай гараджанкамі.

У летні час іншы раз даводзіцца працаваць па 12 — 15 гадзін у дзень. Зімой намнога менш. У асноўным — дагледзець жывёлу і птушку.

Больш за ўсё трацім часу на жывёлагадоўлю. Праца тут толькі ручная. За год затрачана 1927 чалавека-гадзін. Яшчэ на вытворчасць кармоў /зерня, бульбы, буракоў, сена/ — 1333 чалавека-гадзіны, а гэта фактычна таксама на жывёлагадоўлю. Садоўніцтва — 164 гадзіны, агародніцтва — 108. Нарыхтоўка паліва абышлася ў 160 гадзін, на камунальныя паслугі (паленне печаў, водазабеспячэнне, абслугоўванне жылля, уборка смецця, баня, іншыя паслугі) пайшло 300 гадзін. 289 гадзін заняло вінаробства. Адным словам — ні дня адпачынку. Іншы раз дыхнуць няма калі. Затое нешта ж і маем.

Надаілі за лактацыю 2235 л малака/другі ацёл у каровы/, куры далі 1165 яек, атрымалі 50 кг першагатунковага птушынага мяса і 145 кг высакаякаснай свініны. Спажылі ў свежым выглядзе 16 кг ягад, 136 кг гародніны. На віно перапрацавалі 225 кг садавіны, частку — на варэнне і кампоты. 325 кг агародніны пайшлі ў слоікі. Цяпер во, выпіўшы па добрай чарцы, упісваем за абедзьве шчакі ўсе гэтыя нарыхтоўкі.

З ураджаю 1997 года выраблена было 230 л добрага віна, якога ў магазінах днём з агнём не знойдзеш.

Усяго, калі лічыць па рознічных цэнах, мы зрабілі для сябе віна і харчу на 37 мільёнаў 911 тысяч руб. Апроч таго, аказалі самі сабе камунальных і бытавых паслуг на 9 мільёнаў 300 тысяч руб. Цяпер, калі ўсё гэта падлічыць і раздзяліць на затраты часу, то выходзіць, што кожная адпрацаваная гадзіна прынесла нам 10 318 рублёў. Калі лічыць, што ў месяцы 160 рабочых гадзін, то наш сярэднемесячны заробак у АПГ склаў у 1997 годзе па 1650900 рублёў.

А яшчэ мы раздалі бясплатна людзям віна і прадуктаў на 960 тысяч руб. Гэта мы называем грамадскім фондам спажывання.

У нас правіла: вытворчасць сродкаў вытворчасці павінна апярэджваць вытворчасць прадметаў спажывання і паслуг. Таму за год сродкаў вытворчасці выраблена на 108 мільёнаў/80 млн. абарачальных і 28 — асноўных/, а прадметаў спажывання і паслуг — крыху больш як на 47 мільёнаў руб.

Дык каму лепш жывецца — гараджаніну ці вяскоўцу? Еўрапейцу ці беларусу?

— Вяскоўцам! — часта чуеш ад гараджан. — У вас усё сваё...

— Але ж мы гарбацімся. Сваё — гэта наша праца...

— Дык сваю ж працу мы не лічым...

Ой, не! Якраз тыя, што кажуць "сваю працу не лічым", больш за ўсіх лічуць сваю працу, таму і далі дзёру ў горад, бо хоць там і няма "ўсяго свайго", затое часу вольнага — два поўныя дні на тыдзень і нямала — ў рабочы дзень.

А вы, паважаныя чытачы, як лічыце, каму лепш жывецца?

Напішыце нам у рэдакцыю свае думкі.

**Васіль ДАЎГАЛЁЎ,**
**вёска Маркаўка,**
**рэдакцыя газеты "Беларускі Усход".**

**Палітыка**



Іван КАРАВАЙЧЫК

**Нядаўнія забастоўкі камерсантаў на рынках шмат якіх гарадоў краіны паказалі, што ў краіне рыначнага сацыялізму іх нішчаць як клас, варожы працоўнаму люду.**

# Надышоў час аб'ядноўвацца

Я выношваў ідэю гэтага артыкула даўно. Напісаўшы ж яго, не стаўлю сваёй мэтай ператварыць у рэвалюцыянераў тых, хто гэта прачытае. Я не маю права і не хачу заклікаць да сацыяльнага непаслушэнства, ды яно і бессэнсоўна. Мне проста хацелася б паразважаць разам з вамі аб лёсе беларускага прадпрымальніцтва, аб лёсе без малага паўмільёна людзей, якія так ці інакш звязаны з гэтай справай.

Паколькі савецкія прадпрымальнікі выйшлі з савецкіх людзей з савецкім мысленнем і адпаведна з савецкімі паводзінамі, то для таго, каб яны сталі людзьмі з нармалёвым мысленнем, патрэбен быў час і нейкія знешнія раздражняльнікі, якія б паскорылі пераход ад стану савецкага ў нармальны.

У плане разведкі гандлёвых шляхоў і набыцця першапачатковага капіталу савецкі чалавек мог даць фору любому капіталісту. У плане каму і колькі "пакласці на лапу" навучанне праходзілі метадам спроб і памылак і закончылася паразуменнем паміж тымі, хто дае, і тымі, каму даюць. Тут мы ім не дарадчыкі — па прычыне інтымнасці такой справы.

Напэўна, ужо ў крыві ў савецкага чалавека, нават з праімперыялістычным ухілам, у плане "нажывы" глыбока сядзіць упэўненасць, што яго прызначэнне ў гэтым свеце выключна ў тым, каб жыць добра і прыгожа.

Дзесьці там, на "дзікім захадзе", выключна ад лайдацтва і для "адурманьвання" народу створаны палітычныя партыі, людзі аб'ядналіся ў прафсаюзы, у той час як у нас аб чалавеку абавязаны паклапаціцца хтосці чарадзейны і добры. Чарадзей прыдумае разумныя і справядлівыя законы і дасць усім членам грамадства жыццё з асалодай. Для таго, каб гэта ілюзія пачала разбурацца, патрэбен быў час і жаданне падумаць.

Сёння амаль паўмільённая суполка ўсе бліжэй і бліжэй падыходзіць да высновы, што па адзіночцы не выжыць, іх "ператрушчаць" усіх. Сёння, калі апроч хабару, трэба плаціць усё большыя і большыя падаткі, жыццё ўжо не здаецца такім салодкім, а ўпэўненасць, што ўлада створана для таго, каб пра кагосці клапаціцца, адыходзіць на другі план. Праблема выжывання адсунула іншыя праблемы, якіх сёння нямала. Яшчэ тыя людзі, што сядзелі на дрэвах, а ў час дажджу хаваліся ў пячорах, калі ішлі паляваць на маманта — збіваліся ў кучу. Толькі "кучай" маглі яго адолець першабытныя людзі. І хоць кожны сваю костку абглодваў паасабку, грамадзяне тых плямёнаў чыста практычна пераконваліся ў тым, што мамантаў завальваюць толькі "кучай". Інакш — пагібель. Прыкладна такая ж праблема з іншымі "косткамі" і з іншымі "мамантамі" стаіць на парозе XXI стагоддзя. Натуральна, названы "мамант" — гэта абагульненыя праблемы, што стаяць сёння перад малым і сярэднім бізнесам. Дарэчы, па мерках Заходняй Еўропы і Расіі, на Беларусі, па сутнасці, адсутнічае буйны бізнес, хоць і ёсць рэдкія выключэнні, пра якія ўслых проста мовіць непрыстойна.

Гісторыя развіцця чалавецтва паказвае, што для выжывання мэтазгодна збірацца ў "кучу", у нейкае суполле. Гэта ўжо потым прыдумалі самавары, гарэлку і прафсаюзы. Праўда, самавар і гарэлка ўспрымаюцца нашым суайчыннікам такімі, якімі ёсць сапраўды, а вось прафсаюзы ўсё яшчэ ўспрымаюцца як "школа камунізму". Між тым у нашай дарагой сэрцу Айчыне гэта адзіная законная магчымасць негвалтоўна абараніць свае правы.

Калі сёння ажыццявіць цалкам рэальнае — аб'яднаць у прафесійны саюз дробных і сярэдніх прадпрымальнікаў, а таксама работнікаў наёмнай працы, што працуюць у сферы бізнесу, хоць толькі 10% ад іх агульнага ліку, то адразу з'явіцца новая сіла, з якой прыдзецца лічыцца ўсім.

Зараз ні ў парламенце, ні ва ўрадзе няма людзей, якія б прадстаўлялі інтарэсы дробнага і сярэдняга бізнесу. Усе больш ці менш значныя кіраўнікі, якія затрымаліся ва ўладзе хаця б на пару гадоў, практычна напрасткі, хоць і патаемна, сіганулі ў клас "злодзеяў-бізнесменаў". Скарыстаўшы магчымасць распараджацца вынікамі чужой працы, многія перайшлі "з гразі ў князі". Практычна за кожным такім капіталам у той ці іншай ступені стаіць крымінал. Такія капіталы нажываліся ў асноўным за кошт камерцыйнага гандлю, ухілення ад падаткаў шляхам атрымання ўсялякіх ільгот і г.д. У асноўным за кошт сваяцкіх сувязяў, ці нават калі бацька — "начальнік", а сын — "камерсант", рабілі такіх прадпрымальнікаў хутка багатымі і адзіна высокапрыбытковымі. Астатнія вялі барацьбу за выжыванне. Акрамя таго, змагаўся за выжыванне і клас дробных і сярэдніх прадпрымальнікаў, прыгандлёўваючы па дробязі.

Рашучыя, спрытныя і кемлівыя людзі кайстрамі напоўнілі рынак, які ва ўсім адчуваў дэфіцыт. Стварыўшы паміж сабою канкурэнцыю, гэтыя людзі вельмі хутка стабілізавалі цэны. Толькі інфляцыя час ад часу ўносіла свае карэктывы. Але ж інфляцыя непадуладна дробным камерсантам. Ім і ўкрасці няма дзе, і абдурыць пакупніка нявыгадна і небяспечна. Свой гандлевы капітал ім прыходзілася нарошчваць за кошт паскарэння абароту. Да пары да часу гэтых камерсантаў выручала іх выключная працаздольнасць, але "родная дзяржава", каб пракарміць армію чыноўніцтва, расстаўляла і працягвае з дзівоснай настойлівасцю расстаўляць "пасткі". Пастак усё большае, а пакупніцкая здольнасць народа ўсё меншае.

Пад праклёны люмпенізаванага народа камерсанты зрабілі вялізную справу — ліквідавалі дэфіцыты. Яны апранулі і накармілі грамдзян краіны, не пазычыўшы ў дзяржавы ні капейчыны. Там, дзе сапраўды клапоцяцца аб народзе, імкнуцца "напладзіць" пабольш такіх камерсантаў-гарантаў зніжэння цэнаў. Там жа, дзе будуюць рыначны сацыялізм, камерсантаў вынішчаюць як з'яву.

Дзяржава і ўлады разнастайнымі інструкцыямі і пастановамі, рукамі чыноўнікаў і карных органаў вынішчаюць дробны і сярэдні бізнес, а ў адказ атрымліваюць такі "пратэст", які напрыканцы абарачваецца стратамі саміх прадпрымальнікаў.

Па "новай" Канстытуцыі, 50 тысяч грамадзян Рэспублікі Беларусь маюць права выступіць з заканадаўчай ініцыятывай. І калі сёння дробны і сярэдні бізнес стаіць на грані выжывання, то гэта, ў першую чаргу, яго ўласная віна. Бо ніякае міністэрства ніколі не зробіць добраахвотна жыццё прадпрымальнікаў нармалёвым. Разумныя падаткі не даюцца па загаду з вышэйшых інстанцый. Права прадаваць і зарабляць імкнуцца абараняць самі людзі, нават у краінах з развітай дэмакратыяй. Ці не наспела такая неабходнасць і ў нас?

Кожны дробны камерсант у нас тужыцца вырашаць свае праблемы сам на сам і трапляе ў добра расстаўленую сетку чыноўнікаў, якія выдумляюць свае правілы "гульні", дазваляюць і забараняюць, караюць і мілуюць. Як каго і як калі. Росквіт камерсанта залежыць ад яго самога, ад здольнасці даць хабар ці наяўнасці карысных сувязей.

Гісторыя развіцця дробнага бізнесу на Беларусі паказвае, што даваць хабар чыноўнікам найбольш прызвычаіліся тыя, хто без гэтага не працаваў і ў светлыя савецкія часы: гэта значыць, не грамадзяне Беларусі. Буйныя гарады ўжо сёння практычна "акупіраваныя" прыблудамі, мова якіх ніяк не напамінае славянскую. Тыя занадта дружна абараняюць адзін другога, падказваюць сябра сябру, як што лепш рабіць і пабольш зарабіць. А мы — кожны сам па сабе на сваёй жа ўласнай зямельцы. Дык хто ж пераможа канчаткова?

Прававая абарона ў дзяржаве, дзе правы тольткі дэкларуюцца, а не забяспечваюцца, не апошняя справа. Але любому дробнаму камерсанту даволі складана мець уласнага юрыста. А калі ў прафсаюзе будзе створана юрыдычная служба, то член прафсаюза зможа карыстацца ёю бясплатна. Там жа магчыма і стварэнне службы эканамічных, падатковых, мытных, маркетынгавых і іншых кансультацый. Каму гэтага не хочацца?

Па-сапраўднаму працуючы прафсаюз — гэта і адпачынак вашых дзяцей, і ваша лячэнне ў выпадку захворвання. Гэта і права вашых дзяцей трапіць на вучобу ў прэстыжныя інстытуты зарубежных краін. У адзіночку гэтага "не пацягнуць". Якія ж прафсаюзы, апроч саюзаў саміх прадпрымальнікаў, будуць рабіць усё гэта? Наспела неабходнасць шукаць сябра — сябру, аб'ядноўвацца сёння, заўтра ж гэта аб'яднанне будзе ўжо сталым.

У Лідзе і Новаполацку, Оршы і Магілёве, Брэсце і Мінску ўжо ёсць людзі, якія ўзяліся за гэту справу. Партыя Здаровага Сэнсу таксама не застаецца збоку. На чарзе стварэнне каардынацыйнага камітэтау, які прыме Статут прафесіянальных саюзаў і прапануе яго з'езду.

Справа цяпер застаецца за вамі, людзі.

# Рабочага ніхто не шкадуе

Я хацеў быць членам свабоднага прафсаюза і плаціць членскія ўзносы ў касу гэтага прафсаюза толькі дзеля таго, каб ажыццяўлялася абарона правоў радавых рабочых. Цяперашняму ж рэжыму выгадныя толькі такія прафсаюзы, якія слепа выконваюць волю "вярхоў". З рабочым і зараз можна расправіцца як заўгодна, таму што існуе стары парадак: той правы, у каго больш правоў. Баючыся страціць працу, чалавек вымушаны цярпець любое самадурства начальства.

Распавяду пра сябе. Я вымушаны быў уладкавацца вартаўніком, бо іншай работы не прадбачыцца на бліжэйшыя два гады. Паўсюдна ідзе скарачэнне рабочых месцаў. Спадзявацца няма на што, а мне ўжо 58 год. І па стану здароўя мая працаздольнасць абмежаваная. А, як вядома, хворы чалавек у нас становіцца абузай для грамадства.

Маё рабочае месца — Рагачоўскі малочна-кансервавы камбінат, аб'ект, што будуецца. Ахову будынка трэба весці звонку 16 гадзін. Ды яно і ў памяшканні тэмпература-зуб на зуб не патрапіш. Спецадзення вартаўнікам не даюць, замест яго штомесяц даплочваюць да заробку 36 тысяч рублёў. А заробак той — 1100 000 рублёў. Як пражыць на гэтыя грошы? Нікога не цікавіць! Ні прэзідэнта, ні начальніка аховы. І паскардзіцца няма каму. Адказ ва ўсіх адзіны: не спадабаецца — звальняйся. Я ўжо і дысцыплінарнае спагнанне атрымаў за знаходжанне не на рабочым месцы /заходзіў на некалькі хвілін пагрэцца на цэнтральную праходную/, хоць і меў дазвол ад начальніка аховы, але ж высокаму кіраўніцтву гэтага не дакажаш...

І наогул, супраць начальства казаць, як супраць ветру с...

**В.БАРАНАЎ,**
*г.РАГАЧОЎ.*

# Сучок, які хутка засыхае

Парушэнні закона набылі масавы характар. Сёння ніхто не глядзіць на закон, а глядзіць на вышэйстаячага начальніка і свае дзеянні сувымярае не з Законам, а з яго вышэйстаячымі пажаданнямі. Прыкладаў хоць адбаўляй... Гэта і задушэнне страйку 1995 года на метрапалітэне, які ўпершыню на Беларусі быў заглушаны з прымяненнем унутраных войскаў. Гэта і двухгадовая эпапея з перарэгістрацыяй Беларускага Кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў. Гэта і упартае неаднаўленне на рабоце члена свабоднага прафсаюза В.Адынца, па справе якога суду было прадстаўлена ажно шэсьць пратэстаў Генеральнай пракуратуры.

Судовая ўлада сёння — гэта сучок, які хутка засыхае на магутным ствале выканаўчай улады. Бо, калі да сярэдзіны 1994 года, нават да 1995 г., мы выйгралі ў судах не менш як 80% пададзенных іскаў, то сітуацыя карэнным чынам змянілася, калі судовая ўлада была прыдушана і вярнулася "тэлефоннае права". Суд, на наш погляд, сёння ператварыўся ў караючы інструмент у руках выканаўчай улады.

**Г.БЫКАЎ,**
**прэзідэнт БКДБ.**

# Такі ў яго характар

Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнку я ведаю даўно. Мы з ім пяць гадоў былі дэпутатамі Вярхоўнага Савета. Кантактавалі і на бытавым узроўні. Нават за адным сталом сядзець прыходзілася.

Якое ўяўленне склалася ў мяне пра гэтую неардынарную асобу? Добрага не вельмі многа можна сказаць. Дадатныя штрыхі, канешне ж, нейкія ёсць, але пераважае хлусня, якою ён карыстаўся ў часы сваёй "антыкарупцыйнай" дзейнасці і якой зараз карыстаецца даволі часта — не проста палітычная гульня. Ілжывасць — стан яго душы, важнейшая рыса яго характару. Тады, калі мы былі яшчэ на роўных, гэта было смешна. Але трэба было бачыць, якое ён атрымліваў задавальненне ад сваёй хлусні! Страшна, што гэтая яго ілжывасць сёння ўзведзена ў ранг дзяржаўнай палітыкі.

Прывяду некалькі прыкладаў з ранейшай "дзейнасці" сённяшняга прэзідэнта. Даходзіла да кур'ёзаў.

Хацеў Аляксандр Рыгоравіч стаць старшынёй Шклоўскага райвыканкама. Якраз у гэты час апазіцыя БНФ збірала подпісы пад рэзалюцыяй з патрабаваннем, каб мясцовыя кіраўнікі выбіраліся не дэпутатамі Саветаў, а ўсімі выбаршчыкамі адпаведнай тэрыторыі. І Лукашэнка разам з намі падпісаў гэтую рэзалюцыю БНФ. Ці вось такі яшчэ выпадак. Нейк працяглы час, не памятаю ўжо па якой прычыне, доўга адсутнічаў З.Пазняк. Лукашэнка прыбег да нас і кажа:

— Хлопцы, можа вам лідэр патрэбны? Бярыце мяне. Я згодзен узначаліць апазіцыю БНФ.

— ?!

Калі мы яму ветліва адказалі, ён пайшоў у фракцыю камуністаў. Яму і там далі ад варот паварот. Тады ён улез-такі ў фракцыю "Камуністы за дэмакратыю". Але і там не ўжыўся. І наўрад ці ўжывецца ён надоўга з кім бы то ні было. Нездарма ж ужо ў перыяд прэзідэнцтва ад Рыгоравіча адыйшлі дапамагаўшыя яму на выбарах, В.Ганчар, Д.Булахаў, А.Фядута і іншыя. Чаму? Таму што пасрэднасць акружае сябе пасрэднасцю, таму што разумнейшых пры сябе мець боязна.

Падмануўшы большасць выбаршчыкаў Беларусі антыкарупцыйнымі прамовамі Лукашэнка стаў прэзідэнтам краіны.

У свой час Бісмарк трапна сказаў: "Кожны народ заслугоўвае такіх правадыроў, якіх мае". А ў Бібліі гаворыцца, што ўсякая ўлада ад Бога. Але ўладарыць Сатане Бог дазваляе да пары да часу.

Што наш прэзідэнт ад Сатаны, бачна з таго, як ён асвянцоны крыжам старадаўні беларускі герб "Пагоня" замяніў на чырвоную зорку д'ябла, а бел-чырвона-белы сцяг, які сімвалізуе кроў Ісуса Хрыста на белай плашчаніцы, — на іншы. Думаю, што ўсе веруючыя хрысціяне задумаюцца над гэтым.

**Ю.БЕЛЕНЬКІ,**
*г.Мінск.*

# Прадпрымальнікі ўсёй краіны — абъядноўвайцеся!

15 лютага 1998 года у г.Мінску адбыўся ўстаноўчы з'езд прафсаюза работнікаў малога і сярэдняга бізнесу.

Прадстаўнікі 14 гарадоў Беларусі выказаліся і прагаласавалі за стварэнне адзінага рэспубліканскага прафсаюза. Старшынёй створанай арганізацыі выбраны Іван Каравайчык. Такім чынам, на Беларусі ўпершыню ў яе гісторыі створана арганізацыя для абароны інтарэсаў сярэдняга класа.

